


# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.*

№ 43 (124). 21 — 27 кастрычніка 1999г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах. Кошт 40.000 руб.


# МАРШ СВОБОДЫ







Фота IREX/ProMedia

**По данным главного управления внутренних дел Минска, в результате столкновений демонстрантов с милицией, происшедших вечером 17 октября в столице, было задержано около сорока человек.**

Пострадали пятеро сотрудников органов внутренних дел, двое из которых госпитализированы, а также несколько десятков военнослужащих внутренних войск МВД.

По сведениям из неофициальных источников, после акции задержаны от 100 до 200 человек.

По словам одного из организаторов Марша Свободы, координатора Хартии'97 Дмитрия Бондаренко, руководителям шествия поступила информация о том, что против демонстрантов в районе площади Победы готовится провокация – нападение на ее участников. Потому было принято решение повести колонну к площади Независимости в обход – по улицам Козлова, Бедули, Первомайской. "Более чем 10-тысячной колонне демонстрантов в районе парка Горького преграждает путь 15-20 сотрудников милиции, которые начинают активно работать дубинками, – сказал Бондаренко. – Ситуация в чем-то напоминает происшедшее на станции метро "Немига" 30 мая этого года. Чудом никто из милиционеров в создавшейся ситуации не пострадал. Далее дорога была преграждена несколькими легковыми автомобилями "УАЗ", в кабинах которых находились водители... Если бы эти автомобили столкнули, водители пострадали бы серьезно. Возможно, те, кто отдавал приказ, рассчитывали именно на такой исход". Далее Бондаренко рассказал, что колонна "уперлась" в экипированные щитами цепи ОМОНа. Лидер БСДП /Народная Громада/ Н.Статкевич в сложившейся ситуации противостояния принял решение повернуть колонну на площадь Якуба Колоса, к чему и призвал демонстрантов. В тот момент, когда колонна начала отходить, омоновцы напали на нее фактически в спину, избив нескольких людей. Ответом стал град камней. Бондаренко заявил, что, по его сведениям, приказ на жестокое подавление акции был отдан Александром Лукашенко министру внутренних дел Сивакову и руководителю охраны президента Наумову. Как заявил Дмитрий Бондаренко, "власти сознательно провоцировали бойню, и люди вынуждены были защищаться".

**Геннадий БАРБАРИЧ**

## НАВІНЫ

### Даражэе праезд

**З 15 кастрычніка на 44% павялічыўся кошт праезду на прыгарадных аўтобусных маршрутах.**

Цяпер праезд ў аўтобусе з горада ў вёску складае 2300 рублёў за 1 км (раней было 1600 рублёў). Кошт аднолькавы, як у рабочыя, так і ў выхадныя дні. Трэба адзначыць, што апошняе павышэнне коштаў на праезд у прыгарадным транспарце адбылося ў красавіку гэтага года.

**Сяргей ЁРШ**

### Ветэраны заслужылі

**У той час, калі ва ўсіх мастоўскіх крамах адсутнічае гарэлка, у магазіне "Ветэран" яна ёсць.**

Але прадаюць гэты моцны напой толькі ветэранам.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### Хацелі "вылічыць"

**Напярэдадні "Марша Свабоды", што адбыўся 17 кастрычніка ў Мінску, начальнік Мастоўскага РАУС Іван Здановіч накіраваў участковых да мясцовых апазіцыянераў з вусным патрабаваннем, каб тыя прыйшлі да яго для асабістага знаёмства.**

Людзі папрасілі ад міліцыянераў афіцыйнае запрашэнне. На што тыя сцвярджалі, што гэта будзе прыватная гутарка. Разам з тым участковыя распытвалі, ці паедуць тыя 17 кастрычніка ў Мінск.

**Антон МАКЕЙ**

### ВЫРАШАЕЦЦА ЛЁС ПУЦЁЎКІ Ў ВЫШЭЙШУЮ ЛІГУ

У нядзелю, 24 кастрычніка, на стадыёне "Юнацтва" адбудзецца апошні ў гэтым сезоне ў Слоніме матч чэмпіянату Беларусі па футболу. Сустракаюцца "Камунальнік" і "Граніт".

**Пачатак гульні ў 15.00.**

## ЦЫТАТА НУМАРА

Станіслаў Здановіч, старшыня Слонімскага райвыканкама:

**"...НАВАТ У ЧАС, КАЛІ ЖЫВЁЛУ КАРМІЛІ САЛОМАЙ СА СТРЭХАЎ, ПРЫВАГА БЫЛА БОЛЬШАЯ".**

*"Слонімскі веснік" № 128, 16 кастрычніка 1999 года*

Менавіта так пракаменціраваў Станіслаў Тадэвушавіч сярэднясутачныя прывагі буйной рагатай жывёлы ў калгасе "Міжэвічы". У гэтай гаспадарцы за 9 месяцаў гэтага года прывага адной галавы склала ўсяго 129 грамаў. Па гэтай прычыне спадар Здановіч рэкамендаваў сходу ўпаўнаважаных гэтага калгаса разглядзець пытанне: ці адпавядае Мікалай Ягоўдзік пасадзе старшыні праўлення калгаса "Міжэвічы"?

Высвятляецца, што каровы дрэнна дояцца, а быкі не растуць у вазе таму, што "у многіх гаспадарках няма намесніка кіраўніка па інфармацыйна-выхаваўчай рабоце. Відаць, баяцца старшыні і дырэктары, бо раней сакратары партарганізацый "падглядвалі" і за імі..."— адзначыў Здановіч.

### Падарунак польскага сейма

**Нядаўна ў слонімскі краязнаўчы музей былі перададзены копіі архіўных матэрыялаў польскага сейма.**

Ініцыятарам гэтай акцыі стаў былы слонімец Здзіслаў Станкевіч, які цяпер жыве ў Польшчы ў горадзе Слупску. На яго прапанову віцэ-маршалак сейма Ян Круль падараваў слонімскаму музею, "з нагоды 70-годдзя стварэння", копіі выступленняў беларускіх паслоў у даваенным польскім парламенце, а таксама іх біяграфіі. Асабліва каштоўнымі з'яўляюцца тыя дакументы, якія маюць дачыненне да жыцця і дзейнасці нашых землякоў Паўла Крынчыка і Ігната Дварчаніна.

"Гэтыя матэрыялы просім прыняць, як сціплы падарунак Сейма... з такой важнай для Слоніма нагоды", – напісаў Ян Кроль у лісце да кіраўніцтва музея.

**Сяргей ЁРШ**

### "Пустышка"

**"Пустышкой" назвал проект договора о создании единого белорусско-российского государства директор московского института социально-политических исследований А.Кузьмин.**

Такое мнение он высказал, выступая 13 октября на заключительном заседании семинара "Беларусь и Россия: информация, комментарий, анализ". "Это чистая пустышка... Мы просто поддаемся ажиотажу, придавая этой симуляционной деятельности слишком серьезный характер", – сказал Кузьмин.

Все это, по его мнению, приводит к выводу о том, что "нам не надо бороться с такой интеграцией". Нет оснований опасаться и каких-либо последствий из-за нелегитимности или недостаточной легитимности сторон, которые будут подписывать договор, поскольку, в соответствии со статьей 102 Устава ООН, легитимность каждой из договаривающихся сторон будет тщательно проверена.

***

**На "черном" рынке наличной валюты в Минске утром 18 октября доллар покупали по 620.000-625.000 и продавали по 635.000-640.000 рублей.**

По сравнению с пятницей курс вырос в среднем на 20.000 рублей.

**БелаПАН**

## ПОЛИТИКА

# ИДЕЯ "БРАТСКОГО ЕДИНЕНИЯ" ТРЕХ СЛАВЯНСКИХ НАРОДОВ – НЕ МИФ, А ПОСЛЕДНИЙ ШАНС СПАСТИ РОССИЙСКУЮ ИМПЕРИЮ ОТ КРУШЕНИЯ

После того как руководитель ФСБ Российской Федерации Владимир Путин пересел в кресло премьер-министра, а региональная элита вместе с "Отечеством" создала крупнейший предвыборный политический альянс во главе с Е.Примаковым, в России образовалась новая политическая конфигурация. Она заметно сузила лазейки, сквозь которые А.Лукашенко мог бы пробраться к заветному креслу в Кремле. Союзный договор в минской редакции Москвой фактически отвергнут. Об этом свидетельствует проект договора объединения Беларуси и России. Положения и пункты, которые открыли бы белорусам возможность участвовать в президентских выборах в России, протащить не удалось.

**(Продолжение на 4 стр.)**

 



ТРЫБУНА

# ЦІ БЫЦЬ САЮЗНАЙ ДЗЯРЖАВЕ?

**Нядаўна ў сродках масавай інфармацыі быў апублікаваны праект дамовы аб стварэнні саюзнай дзяржавы паміж Беларуссю і Расіяй. Карэспандэнты "ГС" сустрэліся са сланімчанамі на вуліцах горада, каб даведацца, што яны думаюць наконт стварэння гэтага саюза.**

**Людміла Іванаўна:**



– Я катэгарычна супраць саюза Беларусі і Расіі. Параўноўваючы ўмовы жыцця людзей дзвюх краін, пераконваюся, што ў нас яны лепшыя: і заработная плата выдаецца своечасова, і прадукты значна таннейшыя, чым у Расіі. Думаю, што з падпісаннем дагавора жыццё наша пагоршыцца, і мы застанемся з пустымі прылаўкамі.

**Ала**, *маладая сланімчанка:*



– Я за саюз Беларусі і Расіі. Спадзяюся, што стане лягчэй жыць. Чаму? Будзе адзіная грашовая сістэма, прасцей будзе наведаць сваіх знаёмых і сяброў, якія жывуць у розных рэгіёнах Расіі.

**Мікалай Шаўчэнка**, *карэнны слонімец:*

– Дамову паміж Беларуссю і Расіяй неабходна было ўжо даўно абмеркаваць і падпісаць, а не цягнуць да цяперашняга часу. На мой погляд, Беларусь без Расіі не зможа існаваць ні ў эканамічных, ні ў палітычных, ні ў ваенных адносінах. Калі не аб'яднацца з Расіяй, то ўсё роўна прыйдзецца хіліцца да іншых дзяржаў, бо адным нам існаваць будзе цяжка. Чым хутчэй дагавор будзе падпісаны, тым лепш.

**Ганна Мікалаеўна:**



– Я не вельмі разбіраюся ў палітыцы, але на мой погляд, нічога добрага пасля аб'яднання з Расіяй чакаць нельга. Усе мы бачым па тэлебачанні, якое цяпер складанае эканамічнае і палітычнае становішча ў Расіі. Калі мы станем агульнай дзяржавай, у нас будзе тое ж самае.

**Сяргей:**



– Уступаць у саюз з Расіяй, на мой погляд, не варта, бо яна зараз "стаіць на каленях". Калі аб'яднаемся ў адну дзяржаву, то і самыя можам "стаць на калені".

**Кацярына Акімаўна Аніська**, *пенсіянерка:*

– З аднаго боку – я за саюз з Расіяй, але з другога – хвалююся, што перастану своечасова атрымліваць сваю невялікую пенсію. І вельмі баюся за сваіх сыноў і ўнукаў, якіх могуць паслаць у "гарачыя кропкі" Расіі, дзе сёння гінуць сотні маладых хлопцаў.



**Уладзімір Верамейчык**, *пенсіянер:*







– Некалькі дзён таму я саноўча адносіўся да аб'яднання Беларусі і Расіі, але калі ў мінулыя выхадныя па тэлебачанні ўбачыў крывавую сутычку паміж дэманстрантамі і міліцыяй, то мае перакананні цалкам змяніліся. Нам трэба быць самастойнай і незалежнай дзяржавай, і ўсё будзе спакойна.

**Вольга**, *навучэнка медвучылішча:*





– Пасля аб'яднання з Расіяй, Беларусь, як самастойная дзяржава, загіне, бо стане безыменнай паўночна-заходняй часткай Расіі, страціўшы сваю самабытнасць і культуру. Наша родная Беларусь павінна быць незалежнай еўрапейскай краінай.

**Сяргей Юрчык:**



– Я за саюз з Расіяй, бо, можа, будуць вырашаны праблемы з нафтай і газам, якія так неабходны Беларусі. Ды і многія іншыя эканамічныя праблемы без сумесных з Расіяй намаганняў нам вырашыць будзе складана.

**Алена**, *хатняя гаспадыня:*



– Да стварэння агульнай дзяржавы адношуся адмоўна, бо не чакаю ад гэтага паляпшэння ўмоў свайго жыцця.







**Аляксей Хальпін**, *пенсіянер:*

– Думаю, што з падпісаннем дамовы аб стварэнні агульнай дзяржавы, эканамічнае становішча ў Беларусі значна палепшыцца, а дабрабыт беларусаў узрасце.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

НАВІНЫ

## Шукаюць Ганчара

**Мясцовыя раённыя аддзелы міліцыі Гродзеншчыны атрымалі загад шукаць Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага, якія зніклі месяц назад.**

Разам з загадам паступіла і апісанне прыкметаў гэтых асобаў.

**Антон МАКЕЙ**

## Пяць хвілін і пяць гадоў

**Адзін з жыхароў Дзятлаўскага раёна быў асуджаны на 5 гадоў за крадзёж.**

З месц пазбаўлення волі ён вызваліўся ўмоўна-датэрмінова. Дзесяць дзён заставалася дзятлаўчаніну да таго часу, калі тэрмін пакарання будзе закончаны. Аднак не дачакаўся. Выпіўшы, ён угнаў аўтамашыну, каб пакатацца. Прагулка была не доўгай. Праз пяць хвілін аўтаматар урэзаўся ў дрэва. За гэтыя 5 хвілін задавальнення, па прыгавору суда Дзятлаўскага раёна, ён пяць гадоў правядзе ў турме.

## Пад коламі аказалася жанчына

**Вадзіцель калгаса імя Заслонава Дзятлаўскага раёна Н. вечарам на грузавіку наехаў на пенсіянерку Э.**

Жанчына з цяжкімі калецтвамі дастаўлена ў бальніцу.

## Раптоўная смерць

**На вуліцы вёскі Дзянісава Дзятлаўскага раёна раптоўна памёр мясцовы жыхар Р.**

Яму было ўсяго 30 гадоў.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## На Гродненщине ухудшается ситуация с поставками газа

**Начиная с августа, нефтегазоперерабатывающие предприятия не выполняют запланированные объемы поставок сжиженного газа, который вырабатывается из нефти.**

В сентябре они составили 72% от предполагаемых. На сегодня ситуация не улучшилась, поэтому газ отпускается населению, в первую очередь, в многоквартирные жилые дома, где нет печей, на которых можно было бы приготовить пищу. На завоз сжиженного газа в баллонах могут рассчитывать, в основном, ветераны Великой Отечественной войны, пенсионеры и воины-интернационалисты. В связи с этим руководство Гродннооблгаза собирается обратиться к населению, чтобы оно приобретало электрические плиты. В четвертом квартале ожидается осложнение ситуации и с природным газом, так как потребность области в нем удовлетворена только на 88%.

**Ася КУНИЦКАЯ**

## Яны і мы

**13 кастрычніка карэспандэнт "ГС" прымаў удзел у семінары "Журналісцкая этыка", які для беларускіх недзяржаўных СМІ праводзіла амерыканскае інфармацыйнае агенства ЮСІС у Мінску.**

Быць этычным для журналіста – гэта быць праўдзівым у сваёй прафесійнай дзейнасці. Менавіта такім быў асноўны тэзіс семінара. І, па словах арганізатараў, амаль дзве тысячы газет, якія выдаюцца ў ЗША, прытрымліваюцца прынцыпу праўдзівасці. Гэтым яны "забяспечваюць" сабе чытача і камерцыйны поспех.

Як вядома, у апошні час беларускія ўлады закрылі дзевяць недзяржаўных газет. Абвінавачванні ў адрас гэтых выданняў розныя, але прычына на паверхні – крытыка ў бок улады, якая вядзе народ да галечы.

Такая вось амерыканская і беларуская рэаліі ў дзейнасці СМІ. Для беларускага журналіста быць этычным "па-амерыканску" часта становіцца прычынай немагчымасці прафесійнай дзейнасці.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

## Мастоўскі начальнік у Лідзе

**Былы начальнік Мастоўскага РАУС Мечыслаў Улан, які быў змешчаны з пасады за тое, што ў п'яным стане ў ноч на Вялікдзень распачаў страляніну каля бара "Купалінка", што ў Мастах, атрымаў новае прызначэнне.**

Цяпер ён узначальвае аддзяленне ў Лідзе. Акрамя пасады ён пазбавіўся і недабудаванага катэджа.

**Антон МАКЕЙ**

## Студенты хотят свободы

**Двадцать студентов разных факультетов и курсов Гродненского государственного университета имени Янки Купалы публично порвали членские билеты официального студенческого профсоюза этого высшего учебного заведения.**

Акция состоялась во время проведения отчетно-выборной конференции студенческого профсоюза, на глазах около сотни делегатов и представителей руководства вуза. Молодые люди зачитали обращение к сверстникам на белорусском и русском языках, а также раздавали листовки и молодежную газету "Бунтуйма!". Они призвали юношей и девушек присоединяться к созданному год назад Свободному профсоюзу студентов. Один из организаторов акции объяснил то, что произошло, так: "Пришло время распрощаться с советскими формами и методами профсоюзной работы". Все, как раньше: трибуна, президиум, многословие выступающих, обещания, дяди из руководства университета, приставленные к надзору. А тем временем студенческая стипендия составляет всего два миллиона рублей, отмечают "возмутители спокойствия".

Акция студентов университета вызвала большой резонанс в Гродно, особенно в студенческой среде.

**БелаПАН**

## Вось дык грыб

**Вось такі грыб-дажджавік знайшоў у агародзе сваёй бабулі, якая жыве ў вёсцы Шылавічы Слонімскага раёна, вучань 3"А" класа СШ №5 г.Слоніма Ігар Ваняткін.**



Здзіўленыя грыбам былі не толькі сам хлопчык і яго бабуля, але многія вяскоўцы і гараджане. На памяць аб такой знаходцы фотакарэспандэнт Мікалай Супрун сфатаграфаваў Ігара Ваняткіна з грыбам-веліканам.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі........... 2-14-39
............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 20 кастрычніка 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7700 экз.
Заказ №2693
© «Газета Слонімская»
Спасылка на "ГС" абавязковая
Ⓡ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

 

УРАЧЫСТАСЦЬ

# ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КНІГІ СЯРГЕЯ ЧЫГРЫНА

**16 верасня ў Беластоку адбылася прэзентацыя кнігі нашага земляка Сяргея Чыгрына „Вяртанне да сваіх". Гэтая кніга літаральна на днях пабачыла свет, дзякуючы фінансавай падтрымцы Беларускага саюза ў Рэспубліцы Польшча, якім кіруе Яўген Вапа.**

Прэзентацыя кнігі адбылася ў кавярні „Тэхнічная". На ёй прысутнічалі сам аўтар кнігі, спонсары, беларускія і польскія пісьменнікі, удзельнікі IV Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы, старшыня Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" Ганна Сурмач, журналісты і іншыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі.

Урачыстасць адкрыў Яўген Вапа, які адзначыў вартасць кнігі. Сапраўды, выданне яе — своеасаблівая сенсацыя ў гісторыі заходнебеларускай літаратуры. Сяргей Чыгрын пад адну вокладку сабраў літаратурную спадчыну трох малавядомых беларускіх пісьменнікаў: Станіслава Грынкевіча, Франука Грышкевіча і Уладыслава Казлоўшчыка. Усе яны былі родам з Беласточчыны. Лёс гэтых літаратараў быў трагічны. Станіслаў Грынкевіч і Франук Грышкевіч былі знішчаны органамі НКУС, а Уладыслаў Казлоўшчык — застрэлены ў 1943 годзе ў Мінску ў рэдакцыі „Беларускай газэты", якую ён узначальваў.




*Падчас прэзентацыі кнігі Сяргея Чыгрына «Вяртанне да сваіх»*

Станіслаў Грынкевіч быў доктарам медыцыны, напісаў дзесяткі прац па медыцыне, выступаў у друку з крытычнымі літаратуразнаўчымі артыкуламі.

Франук Грышкевіч закончыў Пражскі універсітэт са ступенню доктара філасофіі, выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі. Пісаў вершы, друкаваў у розных заходнебеларускіх выданнях, аўтар зборніка „Веснавыя мэлёдыі".




Уладыслаў Казлоўшчык — паэт, публіцыст, музыкант, спартсмен, палітык, які пасля сябе пакінуў шмат кніг па спорту, вершаў, літаратуразнаўчых артыкулаў. Ён быў адным з арганізатараў Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі.

Жыццёвы і творчы шлях гэтых людзей на працягу больш чым паўстагоддзя быў забыты ці невядомы. На прэзентацыі кнігі Сяргей Чыгрын расказаў аб тым, як ён працаваў над кнігай, адказваў на пытанні прысутных, а таксама журналістаў газет, радыё і тэлебачання.

**Віталь ЛУБА,
рэдактар тыднёвіка „Ніва" у Беластоку**

НАША СУЧАСНАСЦЬ

# МЫ ЛЕПШАЙ ДОЛІ НЕ ЗАСЛУЖЫЛІ

Памятаю, калі яшчэ да развала Саюза першы раз паехаў у Вільню, быў здзіўлены і ўражаны: чаму ў іх усё не так, як у нас? Нават не трэба было глядзець на прыдарожныя ўказальнікі, каб зразумець, што едзем па літоўскай зямлі: асфальт роўненькі, аўтобус нібы ляціць у паветры. А павільёны на аўтобусных прыпынках... У іх шкляныя сцены і ўсе цэлыя. У нас бетонныя разбіваюць. А калі не дадуць рады, то спішуць аж да столі такімі словамі, што брыдка нават зайсці.

У той час мы баяліся да касцёла ці царквы блізка падыходзіць, бо калі ты на дзяржаўнай службе і цябе там заўважыць пільнае вока чыноўніка, то заўтра можаш аказацца на ўцінтары. Памятаю, адзін мой сусед павёз жонку-набожчыцу ў царкву на жалобную малітву. Сам ён не быў камуністам, яна была. То колькі потым пацягалі беднага, колькі нерваў патрапалі.

Мы тайком хрысцілі дзяцей, тайком спраўлялі рэлігійныя святы. А літоўцы рабілі гэта па-людску. Памятаю, калі ў 1967 годзе ўпершыню прыйшоў у Вільню да касцёла, то ажно вачам сваім не паверыў: столькі там было моладзі, людзей. А можа іх там не страшылі так, як нас? Але хто не баіцца, таго не вельмі пастрашыш.

Мы з супрацоўнікамі часта ездзілі ў Вільню па каўбасу. Яна там была смачная і танная. Цэлыя дэсанты арганізоўваліся. Наймалі аўтобус. Мы дык ездзілі ўдваіх з жонкай. Куплялі там не толькі каўбасу, а і іншыя прадукты, вопратку. Літоўскія прадаўцы пазнавалі беларусаў здалёк і абслугоўвалі не вельмі ласкава. Некаторыя размаўлялі толькі на сваёй мове, а мы, дурныя, абураліся — бач ты, па-руску размаўляць не хочуць!

У Вільні столькі цікавых мясцін, гістарычных помнікаў, а мы, як апантаныя, насіліся па крамах і нічога, акрамя ежы ды вопраткі, не бачылі. Аднойчы, стаміўшыся ад гэтай пустой мітусні, я прысеў у скверыку на лаўку. Кабеты яшчэ насіліся па магазінах. Аўтобус, заказаны для паездкі, стаяў непадалёку, па самыя вокны напакаваны вандзэлкамі. Быў канец верасня. Цёплы і казачна прыгожы суботні надвячорак збіраў гараджан у тэатры. На лаўку да мяне селі дзве пажылыя кабеты. Яны размаўлялі на незразумелай мне мове. Потым адна кажа па-руску:

— А вы таксама прыехалі паслухаць Баха?

Бачачы, што я не разумею, патлумачыла:

— У тэатры, што непадалёку, сёння канцэрт. Будуць выконваць творы Баха. Мы з сяброўкай жывём у Таліне, але даведаліся пра гэта і прыехалі паслухаць чароўную музыку.

Мне стала сорамна. Сказаў, што прыехаў па іншых справах.

Напэўна ні адзін народ на свеце так не цураецца сваёй мовы, як наш. Мы яе саромеемся, мы яе не ведаем. Вясковыя дзеці, ступіўшы на асфальт, забываюць роднае слова, бо ў гарадах яны яго, бадай, не чуюць. Адзін мой знаёмы, які размаўляе толькі па-беларуску, ляжаў нядаўна ў бальніцы і з горкай усмешкай расказаў такі выпадак:

— Неяк вечарам я адчуў сябе дрэнна. Пайшоў да медсястры і папрасіў: памерайце мне, калі ласка, ціск.

Тая паглядзела на мяне, як на папуаса, і, ні слова не прамовіўшы, некуды знікла. Я чакаў можа хвілін дзесяць. Напэўна, пасаромелася пытаць у мяне, што такое ціск, пайшла даведацца да калег. А калі вярнулася, памерала і спытала: "А почему вы разговариваете по-белорусски?".

— Дзіцятка маё, — кажу, — дык я ж беларус, нарадзіўся ў Беларусі, тут жыву. Як жа мне яшчэ размаўляць? А ты таксама беларуска?

Яна кіўнула і апусціла вочы...

Нам усякая мова любая, толькі не свая. Іду нядаўна па аўтавакзале, а насустрач дзве бабулькі — божыя дзьмухаўцы. Відаць, знаёмыя, але доўга не бачыліся. А тут выпадкова спаткаліся. Дык яны размаўлялі па-польску, як даўней, як у маладосці. І смех, і грэх. Хто па-польску, хто па-руску, толькі не на роднай мове.

Я дык нічуць не здзіўляюся, што некаторыя нашы дзеці і падлеткі растуць разбэшчаныя, здольныя на дрэнныя ўчынкі. А з каго ім браць добры прыклад? З тых дзядзькаў і цётках, што ледзь не моляцца на пляшку спіртнога? Ці тых, хто нічым не грэбуе дзеля нажывы? А можа на дыскатэках розуму і культуры набяруцца, у барах ды кафэ? Растуць дзеці пустапасам, таму і вырабляюць, што хочуць. Бачыў аднойчы: праз рачулку, што ўпадае ў возера, праклалі мосцік — жалезабетонную пліту, паставілі металічныя поручні, каб усім было зручна хадзіць. То дамарослыя дзікуны пагнулі поручні, прабілі ў жалезабетоннай пліце такую дзіру, што прайсці немагчыма. Гэта ж трэба было папрацаваць! Няхай бы ж да чаго добрага дадумаліся, то не: ламай, знішчай, паскудзь. На некаторых дарожных указальніках, у раскладзе работы магазінаў пасціралі літары, і старыя людзі не могуць разабрацца, што да чаго, брыдкімі словамі паспісвалі тратуары. Сорамна і агідна. Мы не спагадаем старасці, не можам выхаваць сапраўднымі людзьмі сваіх дзяцей, пагарджаем моваЙ, а паходы ў храмы для некаторых маладых — проста даніна модзе. Дык хіба мы заслужылі лепшую долю? Хіба нас будуць паважаць у свеце, калі мы не паважаем самі сябе?

Нам будзе вельмі цяжка, як казаў паэт, заняць пачэсны пасад між народамі. Але трэба, калі хочам людзьмі звацца.

**Раман КАЛЕСНІКОЎСКІ**

НАВІНЫ

## На пацеху дзетвары

**Тры дні гасцяваў у Дзятлаве гадавальнік малпаў "Фламінга".**

Ён прыехаў з расійскага горада Тулы. Размясціўся на пляцоўцы каля стадыёна. Наведвальнікі ўбачылі малпаў розных відаў, а таксама рэдкія пароды лісаў, пясцоў і іншых дзіўных жывёлін.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Прыехалі

**З пачаткам восені практычна немагчыма набыць квіткі на цягнік у чыгуначных касах Мастоў.**

А ўся прычына ў тым, што чыгуначнікі з-за эканоміі паліва сталі ўдвая менш прычапляць вагонаў да цеплавоза.

## Пірагоў будзе ўдосталь

**У саўгасе "Мастоўскі", пасля шматлікіх пратэстаў, нарэшце рабочым пачалі плаціць заработную плату.**

Яна выдаецца выключна мукою.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Правила есть, были бы квартиры

**Правительство Беларуси утвердило Правила учета граждан, нуждающихся в улучшении жилищных условий, и предоставления жилых помещений в Беларуси.**

Порядок учета является обязательным для всех органов власти и предприятий, учреждений, организаций. Согласно ему, нуждающимися в улучшении жилищных условий признаются граждане:

— обеспеченность которых общей площадью жилого помещения на одного члена семьи составляет менее 15 метров;

— проживающие в жилом помещении, не отвечающем установленным санитарным и техническим требованиям;

— проживающие в квартире, заселенной несколькими нанимателями;

— впервые вступившие в брак независимо от возраста, не имеющие отдельной квартиры;

— проживающие в общежитиях, за исключением граждан, поселившихся в них в связи с обучением и др.

Принятие на учет граждан, нуждающихся в улучшении жилищных условий, производится по месту их постоянного проживания по решению местного исполнительного и распорядительного органа при участии общественной комиссии по жилищным вопросам, или по месту работы — совместным решением администрации организации и профсоюзного комитета. Общественные комиссии по жилищным вопросам создаются при органах власти и в организациях с участием представителей профсоюзов и трудовых коллективов. В их функции входит общественный контроль за учетом граждан, нуждающихся в улучшении жилищных условий.

Порядок предоставления жилых помещений государственными организациями должен соответствовать Жилищному кодексу республики, негосударственные — вправе устанавливать иной порядок, не ущемляя при этом предусмотренных законодательством прав граждан.

**Сергей СНЕГИН**

ПРОШУ СЛОВА

## Может ли быть Коммунистическая улица без коммунизма?

*Иду по Слониму, читаю и глазам своим не верю: улица "1-ый переезд", "2-ой переезд", "3-ий...", "4-ый...", "5-ый...", "6-ой..." и, наконец, "7-ой переезд". Что это? Не названия, а клички какие-то! А почему, например, не улицы Сиреневая, Приветливая, Лунная и т.п.?*

А в центре вообще будто идешь по какому-то политико-кладбищенскому мемориалу: площадь Ленина, улицы К.Маркса, В.Крайнего, Синичкина, Хлюпина, вперемешку с улицами Советская, Комсомольская, Коммунистическая, Первомайская. Скучно и грустно. Ничего не имею против уважаемых людей, именами которых названы улицы, но хочется, чтобы кроме них встречались улицы с душевными, красивыми названиями, вызывавшими улыбку и хорошее настроение.

Ведь даже наша столица (уж чем не красавица) и та не стесняется называть свои улицы Солнечной, Красивой... А микрорайоны! Чижовка, Серебрянка, Зеленый луг, Малиновка, Веснянка — звучит как музыка, в которой столько любви к природе и своему городу, романтики. Потому что знают минчане: город хорош не только видом и состоянием его улиц, но и их названиями. Зато в Слониме из-за отсутствия официальных названий люди сами нарекли районы города именами: "Газы" (грубо и негармонично), "Энка" (чужое и непонятное).

Есть, правда, улица Зеленая и Садовая, есть переулок Вишневый. Прекрасно! Есть и улица Тополевая, на которой, правда, нет ни одного тополя, зато она обсажена туями.

Почему бы в городе не поставить памятник Сапеге? Почему бы статуе Ленина не стоять на площади его имени (ведь тоже история, а ее, как известно, не переделаешь, что было, то было!).

Можно еще не раз задать этот вопрос "почему"? Хочу, чтобы все наши улицы имели названия достойные, красивые, а город стал интереснее.

**Тамара ЛЕТЕЦКАЯ**

 



# ИДЕЯ "БРАТСКОГО ЕДИНЕНИЯ" ТРЕХ СЛАВЯНСКИХ НАРОДОВ — НЕ МИФ, А ПОСЛЕДНИЙ ШАНС СПАСТИ РОССИЙСКУЮ ИМПЕРИЮ ОТ КРУШЕНИЯ

Однако из того, что российские политики отказываются впустить А.Лукашенко в царскую ложу, еще не следует, что эти политики перестали помышлять о его приданом. Российская империя трещит по швам. Вторая чеченская война, продолжившая наихудший вариант развития дагестанских событий, ведет дело к окончательной утрате Россией Северного Кавказа. Вслед за северокавказскими провинциями вот-вот начнут отпадать прочие национальные окраины. Высока вероятность того, что не сегодня-завтра уйдут в "самостоятельное плавание" удаленные регионы Федерации.

При таком развитии событий для российского политического истеблишмента, как говорится, кровь из носа желательно сохранить хотя бы славянское ядро российской империи. На этот случай Беларусь им ой, как кстати. Во-первых, она будет хорошей геополитической компенсацией за потери на Востоке. Во-вторых, присоединение белорусских земель позволит русским непосредственно использовать более высокую хозяйственную культуру белорусского народа. В-третьих, вплотную приблизит их к Западу. В-четвертых, создаст дополнительные территориально-экономические и политические заделы для последующего втягивания Украины в новообретенную славянскую державу.

Здесь необходимо заметить, что "возвращение" Украины для российских национал-стратегов — предмет столь же ревностных забот, как в случае с Беларусью. И надо признать, что их шансы поставить на кремлевский баланс Киев вслед за Минском — не совсем призрачные. Украинские реформы буксуют. Страну душит небывалый экономический и социальный кризис. На фоне всеобщего обнищания украинцев и повальной коррупции госаппарата среди населения стремительно растут левопопулистские настроения, усиливается ностальгия по социалистическому прошлому. Все это создает чрезвычайно благоприятную почву для появления украинского издания А.Лукашенко. И судя по последним событиям, это издание уже готовится.

В нынешней борьбе за президентское кресло в Украине принимает участие кандидат, предвыборные лозунги, публичный стиль, риторика, политические технологии, а также электоральная ниша которого удивительным образом напоминают лукашенковские. Многие политические наблюдатели полагают, что именно лидер Прогрессивной социалистической партии Наталия Витренко, прозванная в народе "украинским Лукашенко", станет основным соперником Кучмы на президентских выборах в Украине, первый тур которых пройдет 31 октября этого года. Не каждый аналитик возьмет на себя смелость утверждать, что победа у нынешнего главы украинского государства уже в кармане. Особенно после того, как 2 октября во время предвыборной поездки были брошены две гранаты в его соперницу.

Размах и напористость, с которой ведет свою кампанию Н.Витренко, а главное — уровень поддержки ее среди населения, позволяют предположить возможность такого поворота борьбы за президентский пост, что Леонида Даниловича может постигнуть разочарование не меньше того, что постигло в свое время Вячеслава Кебича. Покушение на "конотопскую ведьму" (еще одно прозвище Витренко) своими политическими обстоятельствами и последствиями странным образом перекликается с лиозненским покушением на А.Лукашенко перед президентскими выборами в 1994 году. Тогда многочисленные разговоры и слухи, безусловно, усилили прилив сердечных чувств к нему со стороны плохо информированного простого люда. Выстрелы под Лиозно связали с происками политических противников кандидата в президенты, которые были готовы помешать его избранию даже ценой физической расправы. Намекали на В.Кебича.

Покушение на кандидата в президенты Украины Н.Витренко тоже связывают с происками ее политических конкурентов. Конкретно называют экс-спикера украинского парламента Александра Мороза, руководитель одного из предвыборных штабов которого якобы передал две "лимонки" засевшим в кустах бомбистам. Намекают также на Леонида Кучму. Действующий президент якобы мог подрядить украинские спецслужбы на террористический акт ради того, чтобы дискредитировать А.Мороза в глазах избирателей, поскольку побаивается его соперничества во втором туре.

О возможном российском следе пока не говорят. Или говорят очень тихо, так тихо, что ничего не разобрать. А ведь бомбисты, пойманные на месте преступления, оказались гражданами России. Собственно "пойманные" сказано очень сильно. Они не бежали с места преступления и сидели в кустах до тех пор, пока на них не наткнулись. Похоже, они ждали, пока на них наткнутся. Почему? Да потому, что таким, надо думать, было оперативное задание. Бросить бомбы — это только первая половина задания. Вторая предписывала сообщить широкой общественности о злодее, который вручил им орудия покушения. Такие, вот, нынче сознательные террористы пошли.

Слава Богу, никто не был убит. Три десятка пострадавших в большинстве своем получили средней тяжести и легкие травмы. И, что удивительно, сама кандидатша в президенты отделалась пустяковыми ранениями и царапинами. А ведь, как свидетельствуют очевидцы, две мощнейшие гранаты упали ей почти под ноги. Это какой же надо быть везучей, чтобы выйти сухой из воды?! Или как филигранно надо было подготовить операцию, чтобы не "замочить" ненароком жертву покушения?!

Как бы там ни было, но покушение пошло в актив Н.Витренко. Оно несомненно увеличило число ее сторонников. В Украине, как и в Беларуси, обижаемых от политики любят и поддерживают тем решительнее, чем громче и раскатистее их вопли. Если до покушения номером два в президентской гонке считался Александр Мороз, то теперь ему, скорее всего, придется довольствоваться третьим номером.

Демократической общественности есть над чем задуматься. Для шовинистически настроенных элементов российского политического класса идея "братского единения" трех славянских народов — не миф, не галлюцинация сознания, а последнее убежище, последний шанс спасти свою империю от полного крушения. Российские геополитики давно превратили эту умозрительную задумку из абстрактной схемы в конкретный план действий, который успешнее всего продвигается на белорусском направлении. Но есть вероятность того, что активное продвижение этого плана начнется и на украинском направлении.

**Вячеслав ОРГИШ,**
**доктор философских наук**

## НАВІНЫ

### Дзень Маці

**14 кастрычніка было свята — дзень Маці.**

У гэты дзень ішоў дождж, дзьмуў пранізлівы халодны вецер. У восем гадзін раніцы я прыйшоў на бурачнае поле. Думаў — больш тут сёння нікога не будзе. Але побач з дзялкай сястры ўжо ўвіхалася бабуля гадоў сямідзесяці. Сагнутая, згорбленая, накінуўшы на галаву звычайны мяшок, жанчына церабіла буракі. Неўзабаве поле пачало запаўняцца людзьмі. Наша суседка ўступіла ў гутарку са сваёй знаёмай:

— Сёння, кажуць, Пакровы. Ганна ў царкву пайшла...

— А Калючыха кажа, што заўтра свята, але на поле, бачыш, не прыйшла.

— Ды па радыё казалі, што сёння яшчэ дзень Маці. Там некаму прэміі даваць будуць.

— Ат, не з нашым шчасцем, Вольга...

На тым жанчыны і разышліся, кожная на сваю дзялку.

Пазней я вярнуўся ў горад. У памяшканні мастоўскага цэнтра маці і дзіцяці з гучнаю назвай "Откровение" гучала бадзёрая музыка. Там святкавалі дзень Маці. На ўрачыстасць былі запрошаны дзесятак-другі жанчын. Ім уручылі падарункі і грашовыя прэміі. А тыя кабеты, якія ў святочны дзень пад дажджом працавалі на дзялках, мабыць, і не ведалі пра свята.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### Новы морг

**Пры мастоўскай бальніцы пабудавалі новы морг.**

Але пакуль памяшканні пустуюць і мясцовы паталагаанатам не можа там распачаць сваю працу, бо адсутнічае неабходнае абсталяванне (халадзільнікі, сталы і іншае). Па папярэдніх падліках, на яго закупку патрэбна 14 млрд.руб.

**Антон МАКЕЙ**

### Льготы за мужество

**Указом А.Лукашенко отдельным категориям граждан Беларуси предоставлена льгота по подоходному налогу с физических лиц.**

Согласно этому документу, подоходным налогом не облагаются суммы денежных наград (вознаграждений), выплачиваемых военнослужащим, лицам рядового и начальствующего состава органов внутренних дел, финансовых расследований, органов и подразделений по чрезвычайным ситуациям, должностным лицам таможенных органов, прокурорским работникам — за непосредственное участие в раскрытии тяжких преступлений, мужество и героизм, проявленные при исполнении служебного долга, а также гражданам, принявшим активное участие в выявлении, изобличении, обезвреживании и задержании лиц, совершивших тяжкие преступления. При этом суммы денежных наград (вознаграждения) выплачиваются за счет средств соответствующих государственных органов без увеличения их финансирования.

Указ принят в целях "усиления борьбы с преступностью, укрепления общественной безопасности".

### В Гродненской области растет число ВИЧ-инфицированных

**По данным областного центра профилактики СПИД, только в этом году их число возросло на семь человек, причем два выявлены за последний месяц.**

Анализы еще семи исследуются. На сегодня количество выявленных в области носителей инфекции достигло 21 человека. По социальному положению семь из них являются рабочими, 6 — неработающими, 2 — студентами, 1 — служащим, четверо отбывают наказание в тюрьме. Лидирует по количеству инфицированных Гродно, где зарегистрировано десять случаев. За ним идут Лида (4) и Волковыск (2). По одному ВИЧ-инфицированному выявлено в Мостах, Новогрудке, Лидском районе и Слониме.

**БелаПАН**

# АМЕРЫКАНСКІЯ СВЯТАРЫ НАВЕДАЛІ СЛОНІМ

**У мінулую нядзелю евангельскія хрысціяне-баптысты адзначалі адно з трох сваіх гадавых свят — свята ўраджаю. З гэтай нагоды ў госці да слонімскіх вернікаў прыехала група амерыканскіх святароў-баптыстаў на чале з галоўным святаром штата Арызона спадаром Джымам Джонсам.**



Раніцай у малітоўным доме, што на вуліцы 17 Верасня, адбыўся ўрачысты малебен, якім кіраваў місіянер Максім. На працягу дзвюх гадзін вернікі маліліся, спявалі духоўныя песні, паказалі тэатралізаваныя сцэны з біблейскага жыцця. Затым з вялікай пропаведдзю выступіў Джым Джонс. Пасля заканчэння свята галоўны святар штата Арызона даў інтэрв'ю карэспандэнту "ГС".

***— Спадар Джонс, Ваш прыезд у Слонім з'яўляецца выпадковым ці...***

— На працягу трох апошніх гадоў я меў гонар выкладаць у мінскай семінарыі, якая рыхтуе святароў-місіянераў для царкваў евангельскіх хрысціян-баптыстаў. Таму мне было цікава паглядзець, як працуе мой былы вучань, а цяпер слонімскі місіянер Максім.

***— І якое ваша ўражанне?***

— Вельмі добрае, бо за кароткі тэрмін ён здолеў згуртаваць вакол сябе слонімскіх вернікаў і ўпэўнена вядзе іх па шляху да Бога.

***— Ці спадабаўся Вам наш горад і яго людзі?***

— Знаёмства са Слонімам і яго жыхарамі пакінула ў мяне прыемнае ўражанне. Я гутарыў з некаторымі з іх і пераканаўся, што гэта адкрытая і добразычлівыя людзі.

На развітанне спадар Джым Джонс напісаў свае пажаданні нашай газеце.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

*Мне выпала огромная честь посетить своих друзей в Слониме. Ваш город очень красивый. Я с удовольствием провел здесь время. Спасибо огромное за те номера вашей газеты, которые мне подарили. Выпуск газеты стал возможным благодаря вашей усердной работе и журналистскому опыту. Я возьму вашу газету с собой, как память о моей поездке в Слоним. Я желаю вам всего лучшего. Успехов вам.*

*Джим Джонс*

 

